**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 22 (895) 1 чэрвеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Гэта не Гаваі, гэта – Браслаў!
*Фота tut.by*



**Увага!!!** Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная – 636682**, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.



















ISSN 2077-8023


### Аршанскі раён

## Надзея на адраджэнне

■ Станіслаў Раманчук.

**Аб імклівым развіцці і аднаўленні былой вытворчай магутнасці Аршанскага раёна ўсё часцей сталі гаварыць на вышэйшым узроўні.** Паколькі гэты рэгіён – малая радзіма А. Лукашэнкі, там ён нарадзіўся, то глава дзяржавы патрабуе ад падначаленых на працягу паўтара года вывесці край з крызісу. У адпаведнасці з ягонымі даручэннямі атрымаў новы шанц вярнуцца да нармальнай дзейнасці мясцовы інструментальны завод, які быў на мяжы банкрутства. На яго мадэрнізацыю ўрад Беларусі не пашкадаваў больш 60 млн. долараў. На адным з самых праблемных мясцовых прадпрыемстваў дагэтуль абсталяванне і станкі моцна састарэлі і знасіліся, іх новы дырэктар думае поўнасцю замяніць. Такую работу трэба было праводзіць гадоў 10 назад, але не дазвалялі вялізныя даўгі, а прадукцыя станавілася ўсё меней канкурэнтназдольнай. Дзякуючы пераходу на сучасныя тэхналогіі, з цягам часу рэальна вярнуць інвестыцыі і дзяржаўныя ссуды. Пакуль, праўда, на заводзе не вырашылі канчаткова весці рэканструкцыю старых цэхаў, альбо нават танней будзе пабудаваць новы вытворчы корпус. Рашэнне па гэтым пытанні і па канчатковым варыянце бізнес-плана павінны былі прыняць на выязным пасяджэнні беларускага ўрада. Іншая справа, што на Аршаншчыне шмат праблемных калектываў, а ў мясцовага камбіната будаўнічых матэрыялаў за даўгі арыштавалі ўсе банкаўскія рахункі. Такім жа адміністрацыйным чынам спадзяюцца тут вырашыць і вясковыя праблемы. У дадатак да ўжо дзеючага запланавалі ў пасёлку Копысь стварыць яшчэ адзін аграрны холдынг. Акрамя райцэнтра міністэрствам і ведамствам даручылі аднавіць і гарпасёлкі Балбасава і Барань.

### Пастаўскі раён

## Засталося чакаць нядоўга?

■ Чэслаў Якубовіч.

**Візіты высокапастаўленых упраўленцаў часта дапамагаюць на месцах вырашаць застарэлыя праблемы.**

Вось і ў работнікаў Пастаўскага льнозавода пасля наведвання іх прадпрыемства напрыканцы мая старшынёй Камітэта дзяржкантролю Беларусі Леанідам Анфімавым з'явілася падобная надзея. Мясцовы завод пяць гадоў назад у ліку яшчэ некалькіх па краіне пачаў мадэрнізацыю сваёй вытворчасці. Аднак пастаўчанам, у адрозненне ад іншых, паставілі адзіным не французскае абсталяванне, якое працуе паўсюдна бездакорна. На мясцовы завод партнёры з Нацыянальнай акадэміі навук і яе навукова-практычны цэнтр па механізацыі прывезлі вытворчую лінію з Бельгіі, якую дапоўнілі беларускія распрацоўкі і механізмы. Яшчэ ў 2014 годзе абсталяванне коштам пад 200 млрд. рублёў у спецыяльна пабудаваным новым цэху запусцілі, але з таго часу ніводнага дня яно не працавала на поўную магутнасць, а болей прастойвала, ламалася, выходзіла са строю. Завод у райцэнтры замест росквіту атрымаў толькі вялікія страты і з цяжкасцю выжывае, працуючы на старой лініі. Кіраўнік галоўнага кантрольнага ведамства асабіста разбіраўся ў няпростай сітуацыі, чаму не працуе сучасны завод. Гэтым занепакоены ўжо і кіраўнік краіны, да 1 ліпеня А. Лукашэнка даручыў любой цаной запусціць новую вытворчасць. Каб з гэтым справіцца, магчыма, сюды запросяць кваліфікаваных замежных спецыялістаў, бо беларускія не могуць даць рады. Пры дрэнным развіцці падзей могуць быць прыцягнуты да адказнасці вінаватыя ў такой аферы, бо завадчане да выбару лініі не мелі ніякіх адносін. Сёлета ў раёне ўдалося пасеяць лён на запланаваных 2400 гектарах, але калі праблема вырашыцца, то можа пастаўчанам не хапіць сыравіны для працы на высокапрадукцыйнай замежнай лініі на поўны сезон перапрацоўкі даўгунцу.

### Віцебскі раён

## Сапраўдны асілак

■ Кастусь Александровіч

**У нашым дынамічным свеце любому кіраўніку немагчыма вытрываць растучыя працоўныя нагрузкі без належнага здароўя і добрай фізічнай формы.**

Такіх жыццёвых прынцыпаў імкнецца прытрымлівацца глава Віцебскай вобласці, майстар спорту па цяжкай атлетыцы Мікалай Шарстнёў. Ён з задавальненнем на спорткомплексе аграгарадка Ноўка прыняў запрашэнне паўдзельнічаць у Міжнародным турніры па жымавым двухбор'і "Славянскі кубак". Сярод больш сотні атлетаў з буйных гарадоў краіны, Расіі і Украіны старшыня аблвыканкама яўна выдзяляўся ў катэгорыі пажылых удзельнікаў. Глава Прыдзвіння выступіў у вагавай катэгорыі да 100 кг сярод асілкаў ва ўзросце 50-59 гадоў і ўжо ў першай спробе без праблем зафіксаваў штангу вагой 150 кг. Далей было значна цяжэй адолець большую вагу. Аднак дзякуючы рэгулярным трэніроўкам перад асноўнай працай яму ўдалося паслядоўна зафіксаваць 160 і нават 165 кілаграм. Апошні вынік стаў пад апладысменты прысутных новым рэкордам Беларусі. Папярэдняе дасягненне было перавышана адразу на 20 кг. Пасля невялікага перапынку асілкі зноў з'явіліся на памосце. У другім выпрабаванні кіраўнік паўночнага рэгіёна зноў апынуўся на вышыні. Любы малады чалавек можа па-добраму пазайздросціць яго майстэрству і сіле. Глава Віцебшчыны даказаў, што ён застаецца адным з самых моцных людзей краіны, бо змог у падыходзе на вынослівасць падняць штангу вагой 100 кг нават 22 разы. Акрамя лепшых вынікаў у гэтых выпрабаваннях М. Шарстнёў у выніку стаў і абсалютным чэмпіёнам турніру сярод ветэранаў. А вось у агульнакамандным заліку прыгожы Кубак за перамогу павезлі дамоў прадстаўнікі Падмаскоўя, якія апярэдзілі каманду гаспадароў спаборніцтваў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 01.06.17 | | | | Пятніца 02.06.17 | | | | Субота 03.06.17 | | | | Нядзеля 04.06.17 | | | | Пн.05.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +11 | +14 | +9 | +6 | +9 | +12 | +11 | +5 | +8 | +13 | +12 | +9 | +11 | +17 | +18 | +14 | +14 | +13 |
| Ціск | 738 | 741 | 742 | 743 | 744 | 745 | 744 | 744 | 745 | 747 | 749 | 748 | 748 | 748 | 746 | 743 | 743 | 743 | 744 |
| Вецер м/сек | 6 | 6 | 6 | 5 | 4 | 6 | 9 | 5 | 3 | 5 | 5 | 1 | 2 | 4 | 5 | 2 | 2 | 1 | 4 |
| | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | З | З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-З | Пн-У | Пд-У | Пд | Пд-З | Пд-З | З | Пн | Пн |
| Вільготнасць | 90 | 56 | 46 | 77 | 78 | 62 | 51 | 42 | 71 | 57 | 44 | 67 | 74 | 71 | 71 | 82 | 93 | 92 | 90 |

### Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСЬ ПАШЫРАЕ СУВЯЗІ З КІТАЕМ З-ЗА ТАГО, ШТО Ў САЮЗНАЙ РАСІІ НЯМА ТЫХ АБ'ЁМАЎ ІНВЕСТЫЦЫЙ І ПАТРЭБНЫХ НАМ ТЭХНАЛОГІЙ, ЯК У КІТАЙЦАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Але як бы там ні было, алея беларусаў найбольш важна тое, што ў Пекіне былі дасягнуты дамоўленасці на некалькі мільярдаў долараў інвестыцый. У прыватнасці, буйная кітайская кампанія CRCC можа прыняць удзел у будаўніцтве высокахуткаснай чыгункі праз усю нашу краіну.**

Апошнім часам усё больш відавочна, што для Беларусі стратэгічнае супрацоўніцтва з далёкім Кітаем пашыраецца нават больш дынамічна, чым расійска-беларускія адносіны. Паміж афіцыйным Мінскам і Пекінам дыпламатычныя сувязі былі ўстаноўлены чвэрць стагоддзя назад і развіваліся па нарастаючай. Далёкаўсходні вектар партнёрства стаў безумоўным накірункам для беларускай знешняй палітыкі. Пра гэта сведчаць шматлікія візіты на вышэйшым узроўні, актыўны дыялог парламентарыяў дзвюх краін, а таксама разнастайныя кантакты міністэрстваў, ведамстваў, дзелавых і творчых людзей.

Ды і сам беларускі лідар наведваў КНР з візітамі дагэтуль 8 разоў, пачынаючы з 1995 года. Сёлета А. Лукашэнка зноў наведаў Паднябесную ў сярэдзіне мая, удзельнічаў у Пекіне ў прадстаўнічым міжнародным форуме "Адзін пояс і адзін шлях". Вельмі цёплай атрымалася сустрэча беларускага прэзідэнта са Старшынёй КНР Сі Цзіньпінам, якому была выказана шмат цёплых слоў павагі. Глава нашай дзяржавы ў кітайскай сталіцы правёў шэраг сустрэч і перамоў з кіраўнікамі Турцыі, Пакістана, В'етнама, Кеніі, Камбоджы, Эфіопіі.

Вось толькі з "родным братам" У. Пуціным там не было нават кароткай сустрэчы. Не перакінуліся яны хоць некалькімі словамі і невядома, хто каго праігнараваў, альбо не было пра што перагаварыць бліжэйшым саюзнікам. Тым часам у расійскіх СМІ паранейшаму выходзяць матэрыялы з крытыкай беларускага кіраўніцтва, адна брыдкая праграма на тэлеканале НТВ пра нашу гуманітарную дапамогу Украіне чаго толькі вартая. Ніяк не можа ўгаманіцца і "Рассельгаснагляд", які ўвёў узмоцнены лабараторны кантроль за пастаўкамі прадукцыі з 9 малочных беларускіх прадпрыемстваў.

У падвешаным стане застаецца пытанне выдзялення ў поўным аб'ёме абяцанага крэдыту з Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. Праўда, пасля сустрэчы ў пачатку красавіка ў Піцеры лідараў РФ і Беларусі транш у суме 300 млн. долараў нам далі. Таксама ўжо пасля заканчэння гэтага рабочага візіту беларускага лідара ў Мінску атрымалі афіцыйнае пісьмо, што нашы вытворцы змогуць удзельнічаць у закупках для дзяржкарпарацый Расіі, уключаючы не армію. Яшчэ летась нашы рускія суседзі пастановай урада абмежавалі допуск замежных і нашых кампаній да такіх дзяржзакупак, хоць на паперы ствараўся адзіны рынак краін-удзельніц ЕАЭС.

Характэрна, што неўзабаве пасля гэтай прадстаўнічай сустрэчы ў Кітаі тэлеканал НТВ прадоўжыў едка высмейваць візіт туды беларускага лідара. Яго малодшага сына Мікалая вядучы па прозвішчу Кеасаян назваў нават "цэсарэвічам", а бацьку прыпісаў сімпатыі да кітайскай гусляркі. Але самае прыкрае, што ў канцоўцы сюжэта закадравым голасам нібыта ад самога У. Пуціна было сказана кіраўніцтву Беларусі, што і " китайской ласточке ясно, что нам не по дороге". Гэты тэлеканал, як іншыя прапагандысцкія і ілжывыя федэральныя медэагіганты, цяпер пільна адсочвае настрой вышэйшага расійскага кіраўніцтва, нашы плённыя сувязі з кітайцамі яўна не да спадобы.

Але як бы там ні было, але для беларусаў найбольш важна тое, што ў Пекіне былі дасягнуты дамоўленасці на некалькі млрд. долараў інвестыцый. У прыватнасці, буйная кітайская кампанія CRCC можа прыняць удзел у будаўніцтве высокахуткаснай чыгункі праз усю нашу краіну. Кітайцы ў гэтай справе – адны з лідараў у свеце, на іх радзіме імклівыя цягнікі даўно там так лятаюць праз усю тэрыторыю, а цяпер яны таксама могуць дапамагчы нам і ў рэалізацыі праекта трэцяй чаргі Мінскага метро. Яшчэ больш аб'ём інвестыцый 1,5 млрд. долараў гатова ўкласці кітайская карпарацыя "СІЦІК Групп" і выбраляць для нас робатаў, ажыццяўляць праекты ў АПК і нафтахіміі.

Сказаць, што на такое здольная цяпер суседка Расія, будзе вялікім перабольшваннем. Рускія з-за сваёй агрэсіўнай палітыкі апынуліся пад сур'ёзнымі санкцыямі і ў міжнароднай ізаляцыі. У іх саміх значныя фінансавыя праблемы, і таму яны сталі значна больш скупымі па аб'ёмах інвестыцый беларусам, яны самі глядзяць у бок Кітая з надзеяй. Тым часам тыя ж кітайцы ўжо пачалі ў нас будаваць і сацыяльнае жыллё, заявілі аб намерах прадоўжыць у нас такую значную і патрэбную для тысяч сем'яў праграму.

У любым выпадку на гэты год урадам Беларусі ставіцца задача павялічыць беларускі экспарт тавараў і паслуг у Кітай да 653 млн. долараў, а да 2020 года давесці гэтыя аб'ёмы – да 1,5 млрд. USD. Праўда, кітайскія аб'ёмы паставак тавараў у Беларусь больш значныя і летась складалі 2,1 млрд. долараў, калі мы паставілі ў Паднябесную на экспарт толькі на паўмільярда. І хоць эканамічная магутнасць Кітая ў параўнанні з намі велізарная, у 140 разоў, калі далейшыя гандлёва-інвестыцыйныя сувязі Беларусі з Кітаем будуць далей расці, то гэта толькі ўзмоцніць пазіцыі айчыннай эканомікі.

## Дзень за днём

**Беларусь падпісала з Кітаем пагадненне аб супрацоўніцтве па адраджэнні Вялікага Шаўковага шляху. Айчынным вытворцам дазволілі ўдзельнічаць у закупках дзяржкарпарацый Расіі. Амаль 10 тысяч маладых людзей прызвалі на ваенную службу, яшчэ тысячу – у рэзерв. Адтэрміноўку ад арміі плануюць даць паступаючым у магістратуру і інтэрнам. Беларускія школы прыступілі да пераглядy графіку пачатку заняткаў. З 7-й спробы ўлады Беларусі зарэгістравалі кампанію "Гавары праўду". Мінск з Рыгай атрымалі права правесці чэмпіянат свету па хакеі 2021 года.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Новы прэзідэнт Францыі Э Макрон падчас свайго першага замежнага візіту прыступіў да адраджэння франка-германскага адзінства ў ЕС, што засмуціла Англію.

**Англія.** Пасля выхаду з ЕС, як пацвердзіла Times, у бліжэйшыя 4 гады рэальныя заробкі бяднейшай трэці брытанцаў зменшацца на 10 %, да 2022 года не будзе росту даходаў.

**ЗША.** Міністэрства юстыцыі прызначыла спецыяльнага пракурора, экс-главу ФБР Р. Мюлера для расследвання магчымага ўмяшання летась Расіі ў прэзідэнцкія выбары.

**Германія.** Урад ФРГ заклікаў Крэмль паўплываць на прарасійскіх сепаратыстаў у Данбасе, каб яны знялі ўведзеныя абмежаванні на дзейнасць місіі АБСЕ ў рэгіёне.

**Расія.** У эфіры Першага канала папулярны тэлевядучы У. Познер папрасіў Пуціна і патрыярха Кірыла патлумачыць, чаму за атэізм у РФ пачалі ўжо саджаць у турму.

**Малдова.** Пасля з'яўлення прэзідэнта І. Дадона на парадзе Перамогі ў Маскве ўжо праз суткі малдаўскае віно, якое было дагэтуль "атрутай", вярнулі на расійскі рынак паставак.

**Калумбія.** У выніку некалькіх выбухаў у порце горада Картахена на тэрыторыі двух суднабудаўнічых заводаў ЗША і краіны загінулі 6, больш 20 чалавек былі паранены.

**Украіна.** Глава Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі З. Аласанія пацвердзіў, што яна не будзе паказваць чэмпіянат свету-2018 па футболе ў Расіі, нават калі ўкраінцы туды патрапяць.

**Мексіка.** Каля сваёй рэдакцыі злачынцы застрэлілі вядомага журналіста Хавьера Вальдэса, які на працягу 30 гадоў расследваў дзейнасць наркамафіі і злачынных банд.

**Малдова.** З пачатку года ў краіне рэзка выраслі тарыфы на медпаслугі (асобныя – на 400-500 %), без страхавога поліса дзень лячэння ў клініцы стаў каштаваць 22 еўра.

**ЗША.** На фабрыцы горада Сан-Маркоса ў Каліфорніі пачалі выпуск па індывідуальных заказах робатаў-лялек для сэксу, якія ўмеюць рухацца і размаўляць, падобныя на людзей.

**Расія**. Тэлеканал НТВ вельмі брудна высмеяў, як пажылы чалавек, "бацька Лукашэнка" накіраваў гуманітарную дапамогу Беларусі суседняй Украіне, дзе РФ вядзе вайну.

**Польшча.** З мэтай удасканалення рынку медыкаментаў у краіне прынялі закон ад дэканцэнтрацыі 15 тысяч аптэк, яны павінны працаваць і ў кожнай гміне ў глыбінцы.

**Украіна.** У адпаведнасці з новымі санкцыямі супраць Расіі ў краіне правайдары заблакавалі доступ да сацсетак "У кантакце", "Аднакласнікі", "Яндэкса", тэлеканалаў РФ.

**ЗША.** На аўкцыёне Sothebys у Нью-Йорку карціну К. Малевіча "Супрэматычная кампазіцыя з палоскай у праекцыі" 1915 года прадалі за рэкордных 21,2 мільёна долараў.

**Германія.** Жыхароў прыгарада Мангейма пачалі абслугоўваць беспілотныя электрычныя аўтобусы EZ10 французскай фірмы Ligier, падобныя аўто тэсціруюцца і ў свеце.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск**. Намеснік начальніка Генштаба, генерал-маёр А. Шкірэнка пацвердзіў, што ў Беларусі не будзе стварацца прафесійная армія, гэта не па сілах айчыннай эканоміцы.

**Магілёў.** Следчыя па справе "Жылкамгаса" выявілі злачынную групу, у якой удзельнічалі кіраўнікі прадпрыемстваў ЖКГ у больш 30 раёнах краіны, займаліся махінацыямі закупак.

**Ганцавічы.** З райбальніцы па выніках службовага расследвання звольнілі медсястру, па халатнасці якой 3-гадовая хворая дзяўчынка патрапіла ў рэанімацыю клінікі ў Мінску.

**Мінск.** Збліжэнне Беларусі з Кітаем, як адзначыў палітолаг А. Класкоўскі, тлумачыцца ў немалой ступені цяжкасцямі ў адносінах паміж А. Лукашэнка і Крамлём.

**Смалявічы.** За два тыдні да сканчэння сваіх паўнамоцтваў прэзідэнт Сербіі Т. Нікаліч прыляцеў у Беларусь з рабочым візітам звычайным рэйсавым самалётам Lufthansa.

**Кобрын.** Сход акцыянераў ААТ "Магатэкс" вырашыў восенню далучыць да сябе мясцовую швейную фірму "Лона" і шыць тут форменнае спецадзенне, камбінезоны.

**Гомель.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры С. Алексіевіч дапамагла жанчыне-інваліду пагасіць даўгі па квартплаце, за якія яе пагражалі выселіць на вуліцу.

**Брэст.** Суд пакараў 55-гадовага беспрацоўнага 1,5 гадамі абмежавання волі за незаконнае захоўванне рэдкага пісталета браўнінга 1910 года ў вёсцы Ваўкаставец Камянецкага раёна.

**Маларыта.** Падчас дагляду ноччу ў пункце пропуску "Макраны" на граніцы з Украінай рэйсавага аўтобуса Брэст-Ковель пагранінікі пад днішчам знайшлі труп мужчыны.

**Гродна**. Міністэрства культуры Беларусі ўзгадніла праект рэканструкцыі старога Каралеўскага замка з умовай яго дапрацоўкі і выпраўлення грубых гістарычных памылак.

**Вілейка.** З Богаслужэння ў мясцовым касцёле арцыбіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Т. Кандрусевіч пачаў адзяваць літургічнае адзенне з нацыянальнымі вышыванкамі.

**Слуцк.** Да 5 гадоў турмы пагражае 20-гадовай дзяўчыне за ўгон легкавога аўтамабіля незнаёмага хлопца, якога яна папрасіла перад злачынствам падвезці ад гарадскога кафэ.

**Мінск.** "Стыдобішча" – не толькі наш хакей, як заявіў журналіст А. Коваль, мы – яўныя аўтсайдары ў Еўропе па заробках, ВУП на душу насельніцтва, па ўзроўні жыцця.

**Астрашыцкі гарадок.** З-за недахопу месц для вучняў у мясцовай сучаснай СШ, дзе вучыцца Коля Лукашэнка, заняткі прыйдзецца, хутчэй усяго, перанесці ў дзве змены.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Лепель.** У ліку дзевяці айчынных малочных прадпрыемстваў Рассельгаснагляд з 15 мая увёў узмоцнены лабараторны кантроль за пастаўкамі прадукцыі з мясцовага МКК.

**Віцебск.** З дапамогай інвестараў з Польшчы напярэдадні VI Міжнароднага эканамічнага форуму адкрыўся новы завод гандлёвага абсталяванян ТАА "Мадэрн-Экспа".

**Орша.** Узначаліць буйны раён дaручылі экс-старшыні Бешанковіцкага райвыканкама Леаніду Пянькоўскаму, ураджэнцу вёскі Баўсевічы з Магілёўскай вобласці.

**Полацк.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі В. Жарко правёў выязное пасяджэнне аргкамітэта па па арганізацыі ў горадзе Дня беларускага пісьменства, ён пройдзе тут 1-3 верасня.

**Руба.** З-за пад'ёму ўзроўню вады ў Заходняй Дзвіне і затаплення кар'ераў па здабычы сыравіны выраслі страты ААТ "Даламіт", замест 3-х уключылі 5 насосаў па адкачцы вады.

**Ушачы.** Раёнам стаў кіраваць экс-дырэктар АСБ "Беларусбанк" Уладзімір Аўдошка, да прызначэння старшынёй райвыканкама ён быў начальнікам інкасацыі АСБ у Наваполацку

**Віцебск.** Выкладчык кафедры паталагічнай фізіялогіі медуніверсітэта Анна Федчанка заваявала Гран-пры XXIII Усерасійскай канферэнцыі маладых вучоных медыкаў.

**Гарадок.** Супраць адразу трох навучэнцаў каледжа распачалі крымінальныя справы

За злоснае хуліганства, збіццё і рабаўніцтва ў інтэрнаце 16-гадовага першакурсніка.

**Полацк.** Падчас святкавання Дня ўніверсітэта на тэрыторыі калегіўма ВНУ ўстанавілі скульптурную кампазіцыю "Прафесар Полацкай акадэміі" насупраць помніка студэнту.

**Орша.** На працягу 2-х гадоў на Віцебшчыне, як пацвердзіў тут глава вобласці М. Шарстнёў, усе неперспектыўныя малакамплектныя школы глыбінкі будуць закрыты.

**Шуміліна.** Падчас 3-дзённага азнакамленчага візіту папскі Нунцый, архіепіскап Г. Пінтар наведаў богаслужэнні тут, быў у захапленні ад адраджэння касцёла на Віцебшчыне.

**Глыбокае.** У мясцовы РАУС звярнулася 46-гадовая непрацуючая жанчына з заявай, што вечарам невядомы зламыснік скраў з яе дома веласіпед 2013 года выпуску.

**Паставы.** Дзіцячая група "Фантазія" Цэнтра культуры і народнай творчасці раёна заваявала дыплом 2-й ступені на міжнародным вакальным конкурсе песні ў Літве.

**Докшыцы.** Падвечар загарэўся жылы дом 76-гадовай пенсіянеркі з вёскі Бедзіна, агонь знішчыў дах, столь, маёмасць, пашкодзіў сцены, у райцэнтры – хлеў жыхаркі горада.

**Наваполацк.** У міліцыю звярнулася з заявай выкладчыца кафедры крыміналістыкі Полацкага дзяржуніверсітэта, што яе загіпнатызавалі, потым знялі ў порнаролікy.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# А якой гадзіне лепш пачынаць заняткі ў школе?

**Зараз актыўна абмяркоўваецца пытанне: а якой гадзіне лепш пачынаць заняткі ў школе – а восьмай ці дзявятай. Трэба адзначыць, што ёсць прыхільнікі як аднаго, так і другога варыянтаў. Праўда, першых, здаецца, усё ж больш. І хаця рашэнне будзе прынятае на самым версе, мы ўсё ж вырашылі спытацца думку і нашых чытачоў.**

**■ Зміцер Лупач**



**Антаніна Германовіч:**

– Я лічу, што з васьмі. Мае дзеці ўсё роўна едуць на аўтобусе, які адыходзіць у сем раніцы, дык чым яны гадзіну будуць так сядзець, то лепш хай на гадзіну раней вызваляцца. І галава ў дзіцяці на гадзіну раней адпачываць пачне. А так атрымоўваецца, што цэлую гадзіну дзеці будуць бадзяцца па школе.

**Аксана Бука:**

– Мне больш падабаецца на дзевяць. Можна больш паспаць. Бо зімой навокал яшчэ цёмна, толькі пасля дзевяці віднее. А яшчэ адна праблема, мы жывём на Паўночнай, і на адных аўтобусах едуць людзі на працу і дзеці ў школу. У аўтобусе людзей столькі, што дзіця і ўвайсці не можа. Можа для тых бацькоў, хто на працы, па восем гадзін і лепш, але мне лепш на дзевяць. Хочацца трохі пашкадаваць нашых дзяцей.



**Вольга Парфяновіч:**

– Мне лепш з васьмі. Усе ж бацькі на працу ідуць на восем. Таму так лепш: сам сабраўся, дзіця пакарміў і адправіў у школу. Дзеці дагледжаныя, пад тваім кантролем у школу адпраўленыя, менш трэба хвалявацца. А як на дзевяць, то ўжо хвалюешся: дойдзе дзіця да школы ці не, паснедае ці не. Ды і шмат хто з бацькоў сам возіць дзяцей у школу, таму на восем гадзін ім лепей.



**Марыя Новікава:**

– Паколькі ў мяне другая змена, мяне хвалюе, у колькі яна будзе тады пачынацца? Мне на дзевяць нязручна. Бо калі ўрокі ў другой змене будуць пазней пачынацца, то ў колькі ж яны будуць заканчвацца? А так у нашай школе заняткі распачынаюцца а палове на дзявятую, і мяне гэта ўсё задавальняе, мы ўсюды паспяваем. І расклад аўтобусаў у нас пад гэты час якраз пасуе.

**Мар'ян Місевіч:**

– Як у вёсцы, дык тут вялікага значэння гэта не мае. А ў горадзе мае значэнне тое, калі бацькі ідуць на працу. Каб не атрымлівалася так, што дзеці самі па сабе і як ім дабірацца да школы. А калі наконт сну, то тут усё проста: раней ляжаш - раней устанеш. А калі бацькі, едучы на працу, завозяць дзяцей у школу, то і рабіць трэба так, каб было выгадна і дзецям, і бацькам. А тое, што яны гадзіну будуць баўтацца ў школе без справы, гэта ўжо лішняе.



# У беларускіх школах прагучалі апошнія званкі для выпускнікоў

**30 мая ў беларускіх школах прагучалі апошнія званкі для выпускнікоў. Варта заўважыць, што гэтае пакаленне школьнікаў з'яўляецца апошнім, народжаным у 1990-х.**

**Па завяршэнні апошніх званкоў і іспытаў больш за 57 тысяч 11-класнікаў збяруцца для правядзення выпускных вечароў.**

**У гэты дзень 11-класнікі афіцыйна стануць дарослымі — ім урачыста ўручаць атэстаты аб агульнай сярэдняй адукацыі, пасля чаго выпускнікі будуць па традыцыі сустракаць світанак.**




**Школьны вальс у Глыбоцкай СШ №3.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Апошні званок у Глыбоцкай СШ №3.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Палякі адкрылі ў Браславе парусную школу амаль за 100 тысяч еўра

**У Браславе адкрылі дзіцячую парусную школу: у праект ужо ўклалі каля ста тысяч еўра.**

На возеры Дрывяты зараз прышвартаваныя 15 новенькіх яхт класа «Аптыміст». Тут жа пірс, каб да іх спускацца, і ангар, дзе іх захоўваць. Усё гэта з'явілася ў Браславе дзякуючы польскім дыпламатам у рамках праекта «Польская дапамога».

***— За апошнія дзесяць гадоў мы рэалізавалі ў Беларусі каля ста праектаў малых грантаў,*** – адзначыў Конрад Паўлік, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі. ***— Ветразная школа — асаблівы з іх. Ён перавышае маштаб малых грантаў, і яго кошт прыкладна 100 тысяч еўра.***



Яшчэ 40 тысяч еўра Польшча інвесціруе ў працу школы. Напрыклад, навучанне інструктараў.

Ідэя стварыць у Браславе дзіцячую парусную школу з'явілася больш за год таму. Хоць на самой справе яхтынг для гэтага месца паняцце не новае. Яшчэ ў 1930-я гады ў горадзе пабудавалі тры прыстані, дзе размяшчаліся паруснікі, лодкі і байдаркі. Тут праводзілі штогадовыя рэгаты. Аднак Другая сусветная вайна перапыніла традыцыю. І толькі ў 2012 годзе тут зноў сталі праходзіць гонкі парусных спартыўных судоў.

***— Гадоў шэсць таму падчас турыстычнага лагера «Браслаўскія ветразі» нашы польскія сябры і калегі прывезлі нам апрабаваць два «Аптымісты»,*** – успамінае Вячаслаў Кроп, кіраўнік яхт-клуба. ***— Дзецям вельмі спадабалася. «Вось бы і нам такія», — марылі мы тады, і ўсё спраўдзілася.***




Цяпер, кажа суразмоўца, яхтавым спортам у горадзе займаюцца каля 20 хлопчыкаў і дзяўчынак. Ужо месяц яны вучаць тэорыю, і тыдзень ходзяць пад ветразем па вадзе. За гэты час, што цікава, ніхто з пачаткоўцаў ў ваду нават не ўпаў.

***– Спрыт,*** — усміхаецца Вячаслаў Кроп.

А ў аддзел адукацыі спорту і турызму Браслаўскага райвыканкама ўжо каторы дзень тэлефануюць бацькі. Пытанне ў мам і тат такое: «А як нам запісаць дзіця ў парусную школу?».

***— Цяпер мы шукаем прафесійнага трэнера па парусным спорце і недзе праз месяц плануем набраць тры групы дзяцей,*** — кажа Станіслаў Астаноўка, намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Браслаўскага райвыканкама. ***— Кожная з груп да 15 чалавек, заняткі для хлопчыкаў і дзяўчынак будуць бясплатнымі.***

***— Аналагічная школа даўно існуе ў польскім горадзе Аўгустове. Туды на перакваліфікацыю плануем адправіць некалькі нашых спецыялістаў,*** — працягвае Станіслаў Астаноўка. ***— Магчыма, іх інструктар прыедзе да нас і навучыць кагосьці тут.***

Што тычыцца яхт-клуба для дарослых, то пра яго з'яўленне ў Браславе пакуль гаварыць не бяруцца. Затое ў планах вучыць парусanаму спорту дзяцей мясцовых турыстаў. Праўда, у адрозненне ад мясцовых дзетак, заняткі для хлопчыкаў і дзяўчынак, якія адпачываюць на азёрах, будуць платнымі.

***Фота: Вольга Шукайла, TUT.BY***

**Усе вучэбныя праграмы для сярэдняй школы ў Беларусі да 1 верасня будуць абноўленыя. Аб гэтым Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку далажыў міністр адукацыі Ігар Карпенка, перадае карэспандэнт БелТА.**

# Усе вучэбныя праграмы для сярэдняй школы ў Беларусі да 1 верасня будуць абноўленыя

Паводле слоў міністра, гэта работа практычна завершана. Разам з тым па аб'ектыўных прычынах пад новыя праграмы да наступнага навучальнага года будуць распрацаваны падручнікі не па ўсіх прадметах. "Мы прааналізуем змест падручнікаў і дакладна вызначым, што са старых падручнікаў браць, а што не ў адпаведнасці з новымі праграмамі, дадзім метадычныя рэкамендацыі", – сказаў Ігар Карпенка.

"Трэба выбраць тыя, што не могуць чакаць, і замяніць гэтыя падручнікі ў першую чаргу. Астатнія пакуль пакінуць, выдаўшы рэкамендацыі", – даручыў Прэзідэнт.

Кіраўніку дзяржавы прадэманстравалі адзін з сігнальных экзэмпляраў новых падручнікаў, а таксама сучасную тэхналогію "ажываючых карцінак". Яе сутнасць у тым, што з дапамогай дадатку на смартфоне можна фактычна "ажывіць" карцінку і прагледзець дадатковы відэаматэрыял.

Аляксандр Лукашэнка выказаў меркаванне, што акрамя зместу важна і афармленне падручнікаў, якое павінна быць прыгожым і фундаментальным, але разам з тым і практычным. "Шкадаваць грошы на падручнікі нельга", – сказаў ён.

Акрамя таго, Прэзідэнту расказалі аб адукацыйным партале, дзе ў свабодным доступе ёсць самыя розныя матэрыялы і інфармацыя для вучняў, бацькоў і педагогаў.

*Уладзімір Мацвееў - БелТА.*

# Надзея, Вера і Каханне



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог, пенсіянер,*
*г. Дзісна*

**"Каханне чэзне пад прымусам; сама яе сутнасць – воля; яна не сумяшчальная з падпарадкаваннем, з рэўнасцю ці страхам; яна там найболей чыстая, дасканалая і бязмежная, дзе яе прыхільнікі жывуць у даверы, у роўнасці і адсутнасці ўмоўнасці."**

*Персі Шэллі, англійскі паэт.*

Наша гісторыя складваецца такім чынам, што ўсё больш і больш застаецца адзінокіх людзей старога ўзросту. Па розных прычынах аб'ектыўнага і суб'ектыўнага зместу ў сем'ях дзяцей яны ў асноўным не жывуць. Сталі моднымі сем'і з двух пакаленняў: бацькі і дзеці. Дзяржава стварыла для іх дамы састарэлых. Але многія не жадаюць у іх жыць. І гэта зразумела. З пакон веку чалавек у сям'і нараджаўся, у сям'і жыў і паміраў. Чалавек – з'ява грамадская. Дык хто і што павінна перашкаджаць чалавеку старога ўзросту ствараць сваю сям'ю? У Дзісне, як яго называюць горадам пенсіянерскім, больш трэці жыхароў пенсійнага ўзросту, прычым, многа адзінокіх. З'яўляюцца зайздроснікі, якія працэс стварэння сям'і ў гэтым узросце ахайваюць.

Прырода ўзнагародзіла нас такім цудоўным пачуццём, як каханне, тым самым выдзеліўшы нас з асяроддзя жывёльнага свету. Ігнараваць гэта пачуццё больш чым глупа ў любым узросце. Чалавек, пакахаўшы, асабліва ў сталым узросце, здаецца глупым у вачах абыякавага, а тым больш варожа настроенага.

Амерыканская пісьменніца Ніна Яў сцвярджае, што мы павінны зразумець, што ў канцы нашага жыцця мы не захочам усіх нашых каштоўнасцяў, што мы захочам, каб нашы каханыя былі побач. І калі гэта жаданне будзе самым важным потым, на фінішы нашага жыцця, то менавіта гэта павінна быць самым важным зараз, сёння.

"Жыццё падобнае музыцы. Яе патрэбна ствараць з дапамогай слыху, інтуіцыі, пачуцця, на глебе кахання бліжняга, а не будаваць па правілах кімсьці прыдуманых," – сцвярджае перуанская пісьменніца Сержыа Барбарэн.

"Няма пачуцця больш моцнага і далікатнага, як пачуццё чыстага, сапраўднага кахання! Душа ахоплена асобым хваляваннем, усё ўяўляецца ў асаблівым прывабным святле, у галаве і сэрцы толькі адна думка: заўсёды бачыць мілы і дарагі прадмет свайго кахання," – так яшчэ ў 18 стагоддзі тлумачыў пачуццё сапраўднага кахання швейцарскі філосаф, тонкі знаток чалавечай душы Францыск Рудольф Вейс. Так мы ў 21 стагоддзі, нягледзячы на пол і ўзрост, аднosімся да кахання, калі яно сапраўднае, а не сурагат.

У інтэрв'ю часопісу "Аднак, жыццё" любімец жаночай публікі актор Міхаіл Баярскі сцвярджаў, што душа не старэе, яна застаецца вечна маладой, старэе наша цела. Але многія ці не могуць, ці не хочуць зразумець, што каханне мае два пачаткі: плоцкае, у задавальненні нашай плоці; і маральнае, духоўнае, у задавальнені маральнай, духоўнай блізкасці, якую так ярка апісаў Вейс.

Камусьці ў жыцці не хапае адной жанчыны, і ён пераключаецца на пятую-дзясятую. А другому жыцця не хапае, каб любіць тую адну-адзіную. Разгадка прастая. У першага каханне, калі гэта пачуццё можна лічыць каханнем, а не інстынктам плоці да супрацьлеглага полу для захавання роду, як у жывёл, дзе адсутнічае мараль. Чалавек хутка насычаецца адной партнёршай і яго цягне на пятую-дзясятую. Ён можа стаць маньякам. Аналагічна і жанчыны мяняюць партнёраў быццам пальчаткі, але цела старэе, уладальніца яго становіцца непрывабнай, па-за канкурэнтнай, і ператвараецца ў сцерву. Іншая справа, другі варыянт. Абое аб'яднаныя сапраўдным каханнем. Для іх не чужое задавальненне плоці ў межах разумнага. Але галоўную ролю адыгрывае мараль. Яны патрэбныя адзін аднаму, не могуць адзін без аднаго. Такі іх унутраны свет. Гэта іх шчасце і радасць. Гэта каханне да смерці. Даказана навукова, што такія людзі жывуць на 5-6 год больш, менш хварэюць. Тады што ж амаральнага ў тым, калі адзінокія пажылыя людзі знаходзяць адзін аднаго ў сталым узросце, ствараюць сям'ю. Я ведаю нekалькі такіх сямей у Дзісне, шчаслівых сямей. Гэта тое, чаго нам сёння так не хапае ў жыцці.

У часопісе "Сябра пенсіянера" №32 за 2016 год прачытаў артыкул "Кака така любовь?!!" Аўтар, напэўна з ліку мной упамянутых "сцерваў" сцвярджае, што сапраўднае каханне даецца толькі раз у жыцці, калі ад яго нараджаюцца дзеці. Адкуль такое безапеляцыйнае сцверджанне? Дзе доказ? Бо жыццё поўна з'яваў, калі першыя шлюбы былі незадачлівымі, а ў другім шлюбе пары знаходзілі сапраўднае шчасце і каханне. Адкуль упэўненасць у тым, што сапраўднае каханне павінна заканчвацца дзетанараджэннем? А калі адзін з супругаў не можа мець дзяцей. Нарэшце сцверджанне, што "шлюбы", якія створаныя ў 60-75-гадовым узросце не могуць быць створаны на фундаменце сапраўднага кахання, што гэта антыгуманная, амаральная з'ява. Напэўна аўтар у свой час была некім пакрыўджана, або не можа змірыцца на глебе вялікай зайздрасці.

Звернемся да рэлігіі. Кожны прыстойны чалавек старaецца будаваць сваё жыццё на аснове трох дабрадзейнасцяў: веры, надзеі, кахання. Дабрадзейнасць узаемазвязана і дапаўняюць адно аднаго. Дапусцім, пенсіянер у 75 год, адзінокі сустрэў свайго ўзросту жанчыну, адчуў, што яна яму неабыякава. У яго з'явілася надзея задаволіць сваю адзіноту ў кампаніі гэтай жанчыны. Жанчына таксама ўбачыла ў ім надзею сваю адзіноту ліквідаваць праз гэтага мужчыну. Праз нейкі час сумесных сустрэч у абаіх з'явілася вера, давер адзін да аднаго, якая перарасла ў каханне. А гэта і ёсць святы закон жыцця, прадугледжаны нашым Творцам.



Чаго б ні казалі зламыснікі, прыхільнікі "чыстага" кахання, ход гісторыі, ход развіцця цывілізацыі назад не павярнуць. Каханне, як з'ява, дадзеная нам Усявышнім, ахоплівае ўсе слаі насельніцтва, незалежна ад узросту і супраціўляцца гэтай з'яве, значыць, рабіць самаму сабе шкоду, асуджаць сябе на адзіноцтва. Многія пажылыя людзі знаходзяць сабе любімых сяброў, вядуць сумесны лад жыцця, стараючыся не афішыраваць, бо злыя языкі страшней пісталетаў. Паважаныя спадары і спадарыні пажылога ўзросту! Выбар за Вамі!

# Сёлета ў вобласці пакарана штрафамі больш за 390 асобаў за знаходжанне на чыгуначных шляхах

■ **А.І.Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

**Чыгунка – крыніца падвышанай небяспекі! Аднак не ўсе грамадзяне выконваюць меры асабістай бяспекі і пераходзяць чыгуначныя шляхі там, дзе ўздумаецца: і перад рухомым цягнікам, і пад вагонамі стаячага саставу, а таксама праходзяць па чыгуначным палатне. У выніку парушальнікі ствараюць рэальную пагрозу не толькі свайго жыцця, але і іншых грамадзян.**

Асноўным чыннікам гібелі грамадзян пад коламі чыгуначнага транспарту з'яўляецца знаходжанне пацярпелых у стане алкагольнага ап'янення. а таксама асабістая недысцыплінаванасць пры знаходжанні паблізу крыніцы падвышанай небяспекі. Сёлета ў вобласці да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне ч.5 арт. 18.3 КоАП Рэспублікі Беларусь (праход па чыгуначных шляхах, знаходжанне на чыгуначных шляхах у не ўсталяваным месцы) было прыцягнута да адказнасці больш за 390 чалавек.



**Здымі навушнікі і капюшон паблізу чыгункі! Яны перашкаджаюць заўважыць цягнік!**

У сувязі, з чым хацелася б нагадаць элементарныя меры асабістай бяспекі пры знаходжанні на аб'ектах чыгуначнага транспарту:

- Пешаходы павінны пераходзіць чыгуначныя шляхі толькі ва ўсталяваных месцах, карыстаючыся пры гэтым пешаходнымі мастамі, тунэлямі, пераездамі.
- Перад пераходам шляху па пешаходным насціле неабходна пераканацца ў адсутнасці рухомага цягніка, лакаматыва ці вагонаў. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў варта спыніцца, прапусціць іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага састава па суседніх шляхах, працягнуць пераход.

**Катэгарычна забараняецца:**

- Хадзіць па чыгуначных шляхах.
- Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя шляхі перад блізка ідучым цягнікам, калі адлегласць да яго меней за 400 метраў.
- Пераходзіць праз шлях адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці следавання цягніка сустрэчнага кірунку.
- Пераходзіць чыгуначныя пераезды пры зачыненым шлагбаўме ці наяўнасці чырвонага сігналу святлафора пераезнай сігналізацыі.
- На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі для праходу праз шлях.
- Праходзіць уздоўж чыгуначнага шляху бліжэй 5-ці метраў ад крайняй рэйкі. За парушэнне дадзеных правіл прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па арт. 18.3 ч. 5 КоАП Рэспублікі Беларусь: пакаранне ў выглядзе накладання штрафу ў памеры ад 0,2 да 2 базавых велічынь.

За парушэнне асобай, якая кіруе транспартным сродкам, правілаў праезду чыгуначнага пераезду – штраф у памеры ад 2 да 4 базавых велічынь.

■ **Л. Ч. Барэйка,**
*памочнік урача-паразітолага Глыбоцкага РЦГЭ*

# Што трэба ведаць аб геагельмінтозах

**Геагельмінтозы – паразітарныя захворванні, узбуджальнікі якіх праходзяць частку свайго развіцця ў арганізме чалавека, а іншую частку ў навакольным асяроддзі, звычайна ў глебе (geos -зямля).**

Да геагельмінтозаў адносяцца: аскарыдоз, трыхацэфалез, анкіластамідозы, странгілаідоз і інш.

Тэрыторыя Беларусі па комплексе прыродных умоў з'яўляецца спрыяльнай для распаўсюду аскарыдозу і трыхацэфалеза.

Дарослыя полаваспелыя асобіны аскарыдозу і трыхацэфалеза паразітуюць у чалавека, які з'яўляецца іх канчатковым гаспадаром. Чалавек са спаражненнямі вылучае няспелыя яйкі ўзбуджальніка ў навакольнае асяроддзе (у глебу), дзе пры наяўнасці дастатковага цяпла, вільготнасці і доступу кіслароду ў яйках фармуюцца і спеюць інвазійныя лічынкі.

Заражэнне чалавека адбываецца пры праглынанні спелых яйкаў геагельмінтаў, часцей за ўсё з сырой гароднінай, ягадамі, агароднай зелянінай, забруджанымі часцінкамі глебы, а таксама з забруджаных рук. Пэўную ролю ў распаўсюдзе аскарыдозу граюць мухі, якія на лапках пераносяць яйкі аскарыд і забруджваюць імі харчовыя прадукты.

Паспяванне яйкаў аскарыд, узбуджальнікаў аскарыдозу, адбываецца ў глебе пры тэмпературы ад 13 Сº да 37 Сº і вільготнасці не ніжэй за 8%. У глебах умеранага клімату яйкі аскарыд могуць заставацца жывымі да пяці-сямі гадоў, нават праз дзесяць гадоў знаходжання ў глебе 50% яйкаў захоўваюць жыццяздольнасць. Не саспелыя ўвосень яйкі перазімоўваюць і працягваюць развіццё ўвесну.

Яйкі аскарыд валодаюць значнай устойлівасцю да нізкіх тэмператур і захоўваюць жыццяздольнасць пад снегам пры трыццаціградусным марозе. Устойлівасць яйкаў аскарыд да высокіх тэмператур і сонечных прамянёў значна ніжэй. Пры 47 Сº яйкі гінуць праз гадзіну, пры 50 Сº – праз некалькі секунд. На агароднай зеляніне, гародніне і ягадах (салата, кроп, зялёны лук, агуркі, радыска, трускаўка) яйкі аскарыд выжываюць да 3 месяцаў.

У тонкім кішэчніку чалавека з яйкаў выходзяць лічынкі, якія праз сценку кішэчніка трапляюць у крывяносныя сасуды і каля 2-х тыдняў мігруюць па арганізме, выклікаючы падвышэнне тэмпературы цела, кашаль, болі ў цягліцах, сверб і скурныя высыпанні. Праходзячы праз печань, сэрца і лёгкія, лічынкі паднімаюцца ў бронхі, трахею і глытку, адкуль ізноў заглынаюцца і вяртаюцца ў кішачнік, дзе праз 2,5-3 месяцы ад моманту заражэння, дасягаюць палавой сталасці і пачынаюць адкладаць яйкі. Полаваспелая самка здольная адкласці да 240 тысяч яйкаў у суткі. Жывуць аскарыды ў кішэчніку ад года да паўтара гадоў, затым гінуць і выходзяць вонкі разам са спаражненнямі.

Паразітуючы ў кішэчніку, аскарыды выклікаюць слабасць, болі ў жываце, млоснасць і ваніты, пагаршэнне апетыту і зніжэнне масы цела, раздражняльнасць і стамляльнасць.

Для паспявання яйкаў узбуджальніка трыхацэфалеза (воласагалова), неабходна тэмпература ад 25 Сº да 30 Сº і высокая адносная вільготнасць паветра (каля 100%). Яйкі воласагалова ў навакольнымасяроддзіменей устойлівыя ў параўнанні з яйкамі аскарыд. Тэмпературу 0 Сº яйкі воласагалова пераносяць да 20 дзён, але ужо пры - 2-3Сº праз 9 дзён гіне да 90% яйкаў. Ніжняй парогавай тэмпературнай мяжой, пры якой пачынаецца развіццё яйкаў воласагалова, з'яўляецца тэмпература 15 Сº.

У тонкім кішэчніку чалавека з яйкаў выходзяць лічынкі, якія без міграцыі праз 1-1,5 месяца ператвараюцца ў полаваспелыя формы. Полаваспелая самка адкладае ад 1000 да 3500 тысяч яйкаў у суткі. Працягласць жыцця воласагалова складае 5 гадоў і больш.

Хворых трыхацэфалезам часцей за ўсё турбуе млоснасць, ваніты, пачуццё цяжару і хваравітасць у падуздушнай і правай падуздышнай абласцях, галаўны боль, галавакружэнне, бессань, раздражняльнасць, часам – сутаргі.

Пры з'яўленні пералічаных сімптомаў варта неадкладна звярнуцца да ўрача для правядзення дыягнастычнага абследавання, усталявання дыягназу і прызначэння лячэння. Уся прафілактыка геагельмінтозаў зводзіцца да аднаго простага правіла – выключыць трапленне ўзбуджальнікаў хвароб у арганізм чалавека, выконваючы самыя звычайныя правілы гігіены:

● мыць рукі перад ежай, пасля працы з зямлёй, мыцця, мыцця падлог, уборкі памяшканняў і тэрыторый ўчастку, наведвання туалета. Пры працы з зямлёй лепш выкарыстоўваць пальчаткі. Пагладзілі котку, сабаку, ці дзеці пагулялі ў пясочніцы ● таксама мыць рукі сабе і дзецям. Сціслa стрыгчы пазногці, не грызці іх;

● зеляніну, гародніну, садавіну, ягады трэба старанна прамываць і пажадана абліваць кіпенем. Гародніну, садавіну з цвёрдай скуркай можна пачысціць адмысловай шчотачкай для гародніны. Рэкамендуецца мыць перад ежай бананы, мандарыны, апельсіны і іншую садавіну з лёгка адлучнай скуркай;

● не піць сырую ваду з любога вадаёма, якой бы празрыстай і чыстай яна ні здавалася, нельга заглынаць ваду пры купанні ў вадаёмах;

● апрацоўчыя дошкі і нажы для нарэзкі гародніны, садавіны, зеляніны, сыроў, мясных дэлікатэсаў і вэнджаніны трэба добра мыць і пажадана абліваць кіпенем;

● рэгулярна праводзіць вільготную ўборку ў памяшканнях. Яйкі гельмінтаў заносяцца ў хату на падэшвах абутку ці хатнімі жывёламі, а разам з пылам вельмі добра могуць узлятаць у паветра і абсядаць на ўсіх прадметах жылля;

● весці барацьбу з мухамі, абараняць ад іх прадукты харчавання;

● не ўгнойваць гароды не абясшкоджаным брудам.

Праблема гельмінтозаў чалавека часам незаслужана прыніжаецца. Але, у любым выпадку, гэта хвароба. Хваробу лепш папярэдзіць, чым лячыць. Таму выкарыстанне правіл папярэджання гельмінтозаў дапаможа зберагчы ваша здароўе.

## МУС: Да 1 студзеня 2019 года ў Беларусі будуць уведзеныя біяметрычныя пашпарты і ID-карты

**Біяметрычныя пашпарты беларусам пачнуць выдаваць з 1 студзеня 2019 года, паведаміў у эфіры інтэрнэт-тэлебачання «СБ» начальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі палкоўнік міліцыі Аляксей Бягун.**



Як патлумачыў Аляксей Бягун, у біяметрычны пашпарт будзе электронны чып з персанальнымі дадзенымі ўладальніка дакумента - фота, электронны лічбавы подпіс, адбіткі пальцаў.

Гэты пашпарт дазволіць беларусам хутчэй праходзіць кантроль на мяжы. Акрамя таго, біяметрычны дакумент неабходны для спрашчэння візавага рэжыму з краінамі Шэнгена — гэта адна з умоў ЕС.

Па біяметрычных пашпартах беларусы ў асноўным будуць выязджаць за мяжу. Унутраным дакументам, як у еўрапейцаў, будзе ID-карта.

— З 1 студзеня 2019 года мы ўвядзем і біяметрычныя пашпарты, і ID-карты, — паведаміў начальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС.

Адразу мяняць пашпарты на новыя будзе не трэба, па словах Аляксей Бягуна, першы час будуць дзейнічаць абодва пашпарты – і звычайны, і біяметрычны.

Дарэчы, па прагнозах начальніка дэпартамента, перамовы з Еўрасаюзам аб зніжэнні кошту шэнгенскіх віз і спрашчэнні іх атрымання, могуць быць завершаныз ўжо ў гэтым годзе.

*Tut.by*

## МНС інфармуе

**на 30.05.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 315;
Гібель людзей – 47, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 19;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

## Вынік рыбалкі – тры гады зняволення!

Прайшло 2 гады, як уступілі ў дзеянне змены ў Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у якіх з'явілася шмат дадаткаў. Асобныя палажэнні Правіл значна паляпшаюць і палягчаюць працэс рыбалоўства. Так, павялічылася колькасць вадаёмаў, на якіх дазволены тролінг. У той час, тролінг можа ажыццяўляцца толькі адным спінінгам, для падводнага палявання таксама павялічана колькасць вадаёмаў і яшчэ цэлы шэраг змен. Сталі жорсткім меры адказнасці грамадзян пры незаконнай здабычы рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства і спосабамі, у разы (у 3 разы) павялічаны таксы пакрыцця прычыненага прыродзе ўрону. Па дзейсных Правілах, парушальнік, які незаконна (сеткамі і інш. забароненымі прыладамі) здабыў 7 асобінаў ліна, будзе несці крымінальную адказнасць, а таму аматарам экстрыму неабходна напачатку добра падумаць, перш чым парушаць закон.

Нягледзячы на цвёрдыя меры адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці, якія ўжываюцца да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штотыдзень затрымоўваюць парушальнікаў, у тым ліку і з браканьерскімі прыладамі рыбалоўства, сеткамі, броднікамі, мярожамі. Толькі за травень бягучага года спынена 17 грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, у парушальнікаў канфіскавана больш за 1 км сетак, мярожаў, амаль 80 кг незаконна здабытай рыбы.

Прыведзеныя ніжэй прыклады паказваюць стаўленне дзяржавы да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, велізарныя штрафы і сумы прад'яўленай шкоды выразна даюць зразумець несвядомым грамадзянам, што жартаваць з законам не трэба.

Так, 4 траўня каля 1 гадзіны супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на вадасховішчы ў Аляксандраве Шаркоўшчынскага раёна затрыманы двое грамадзян, жыхароў раёна, якія лавілі рыбу ў перыяд забароны, з дапамогай сетак, здабыць паспелі 83 асобіны розных відаў рыбы, шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала амаль 5727 рублёў. Узбуджана крымінальная справа, і парушальнікам пагражае пазбаўленне волі да 3 гадоў.

7 траўня 2017 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Кавалькі паблізу г. Паставы затрыманы жыхар Пастаўскага раёна, які ажыццяўляў здабычу рыбы з дапамогай забароненых прылад рыбалоўства – сетак. Здабыча няўдачлівага рыбалова склала 69 асобінаў розных відаў рыбы, а шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 5175 рублёў. Парушальнікам пагражае крымінальная адказнасць і пазбаўленне волі да 3 гадоў.

10 траўня 2017 года на вадаёме паблізу г.п. Варапаева інспектарамі затрыманы двое мясцовых жыхароў, якія здзяйснялі здабычу рыбы сеткамі, усяго парушальнікі паспелі здабыць 36 асобінаў розных відаў рыбы. Шкода, прычыненая прыродзе, склала 9867 рублёў, пакрытая ў поўным аб'ёме да суда.

Вось такая дарагая атрымліваецца рыбалка. Толькі за адзін вечар 19 траўня 2017 года, на працягу 1 гадзіны, на сажалцы паблізу в. Ломашы інспектары затрымалі двух жыхароў в. Ломашы Глыбоцкага раёна. Адзін грамадзянін не дайшоў да сажалкі зусім трохі, метраў 50, і быў затрыманы з сеткамі. А другі толькі паспеў праверыць сваю сетку, як на беразе яго ўжо чакалі інспектары.

Як вынік рыбалкі - прыстойныя штрафы.

Па ўсіх пытаннях Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую МРІ на тэлефоны: 8-02156-5-59-80, 28030, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78, 249-45-49.

